Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 36 (87). Вільня, Субота 23 Красавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

**Віншуем нашых праваслаўных падпішчыкаў, чытачоў і усё праваслаўнае беларускае грамадзянства з ВЯЛІКОДНЫМІ СЬВЯТАМІ!**

## НА ВЯЛІКДЗЕНЬ.

У той час, калі гэтыя словы дойдуць да таго, для каго яны назначаны, г. зн. да сялянскае хаты, дык адна частка Беларусаў будзе ўжо праводзіць, а другая, толькі распачне сьвяткаваць вялікае рэлігійнае сьвята—Вялікдзень.

Згодна адвечных хрысьціянскіх традыцыяў, гэта сьвята называюць васёлым і праўда, як-жа не радавацца і не вясяліцца?

Той, хто прышоў на зямлю, каб навучыць людзей жыць па праўдзе—працярпеў за справядлівасьць свайго навучаньня жорсткія мукі, памёр і, на вялікую радасьць сваіх пасьледавальнікаў, уваскрос! Дый нанават і сама прырода, ня толькі людзі, радуецца у гэты час, бо пад дзействам вясьнявога сонейка ўсё ажывае і пачынае імкнуцца да новага жыцьця!...

Калі-ж мы пяройдзем ад гэтых радасьцяў да беларускае сялянскае хаты, дык і там прыкмецім ажыўленьне: запанаваўшая вясна збудзіла Беларуса - селяніна, але не да радасьці, а на гаротную і цяжкую працу на сваім вузенькім шнурочку зямелькі, а з гэтым красуня вясна збудзіла ў душы селяніна трывогу і безпрасьветную думку. Дый як-жа не трывожыцца, калі цёмныя хмары бяды і гора павісьлі над хатаю?!

Галоўнай, горкаю бядою сялянскага жыцьця ў яго вясьнявой працы, ёсьць рознага роду нястачы і тое бязвыхаднае палажэньне, якое не дае аніякае магчымасьці папоўніць хоць частку гэтых нястачаў. Які ён ні ёсьць шнурочак зямелькі, але-ж ня кожны можа яго ўправіць, бо на гэта трэба мець ратайскія прылады, або грошы, але-ж вялікшая пераважная большасьць нашага сялянства нічога гэтага ня мае. Дык вось, гэта адна прычына вялікшае часткі сялянскага гора. А ёсьць і гэтак, што маючы сякія-такія прылады, але-ж няма насеньня і спосабу здабыць яго асабліва ў гэтым годзе, а тут падходзяць першыя раты падатку. Пад дзействам гэтых гаротных чыннікаў, сьвяткуе наш селянін найвялікшае рэлігійнае сьвята!...

Маючы гэтакую бяду, ці-ж можна спаткаць яго радасна і васёла? Не, у гэтакіх абставінах сьвятачны перарыў працы прыносіць многа думак і яшчэ болей мучыць і бяз гэтага ўжо змучанае сэрца.

Чаму-ж гэта гэтак выходзіць, што селянін акрамя цяжасьці і гаротнасьці ў сваей працы не находзіць радасьці? А таму, што дужыя гэтага сьвету—буржуазныя, капіталістычныя і абшарніцкія клясы, стварылі гэтакія абставіны, што бедны працаўнік ратай сваею мазольнаю працаю корміць усіх, а сам, дык ня відзіць прасьветку і ня мае здаваленьня.

Каб змацаваць праўдзівасьць нашых вывадаў перанясемся на момант—на старонкі газэты „Głosu Prawdy“. „Дык вось з аднаго боку, піша „Głos Prawdy“, багатая група, змanапалізаваўшая для сябе ўсяго Бога, імянем Яго праклінае, пляміць і ўціскае другую групу:—малюткіх і ціхіх бедакоў у лахманах, якія з потам на твары дабываюць міску стравы. Але-ж сам Бог прыслаў на зямлю Сына свайго, каб Ён узяў на сябе абарону пакрыўджаных ад крыўдзіцеляў, каб бяручы пакрыўджаных над сваю апеку даўся за іх крыўдзіцелям на мукі, на крыж. Бог сам прышоў каб паменшыць раскелзаннасьць дэмагогіі і чыніць справядлівасьць паміж людзьмі“.

„І сёньня, пасьля 19 з лішнім вякоў ад таго часу, тут на нашай зямлі асьвечанай мучаніцтвам, маем дзьве проціlежныя групы:—адну, якая (паўтараецца) змапалізаваўшы для сябе ўсяго Бога і ўсю Бацькаўшчыну рвецца да таго, каб налажыўшы ярмо і патапіць тых, якія ў ахвярнай службе Бацькаўшчыне не ганяліся за асабістым дабрабытам, якія і далей з потам на твары змагаюцца за кавалак хлеба і за куток захаваньня ад ветру“.

„Цень Хрыста становіцца паміж гэтым варожымі сабе лагерамі з заклікам да першых: апамятайцеся, да другіх: ня трацьце веры ў перамогу добрых пачуцьцяў, трыумф Праўды і Справядлівасьці, не паддавайся шаптаньням роспачы, якая пхае на гнеў проці ўласнай матцы—нашай Бацькаўшчыны“.

Дык вось ня гледзячы на ўсе цяжары і гаротнасьці нашага пакутнага жыцьця, моцна прымем да сэрца гэтыя словы і ў дні Вялікодных Сьвятаў сьвядомасьцю сваей справядлівасьці падмацуйма свае сілы для далейшай працы і далейшага змаганьня за направу сацыяльных і нацыянальных крыўдаў. веручы, што пастрадаўшы і ўваскросшы Хрыстос—найвялікшая справядлівасьць—з намі і за нас.

Ст. Сьв.

## Аб залатым руне.

„Głos Prawdy“ № 95 г. г. надрукаваў карэспандэнцыю, як відаць палкоўніка Януша Гансяроўскага.

Пан палкоўнік Гансяроўскі пабываў у Афрыцы, у м. Сідзі-Бэль-Аббэс, якое знаходзіцца на поўдзень ад Арану 70 кілём. і 400 кілём. на захад ад Алжыру.

Будучы ў Сідзі-бэль-Аббэсу п. Гансяроўскага адведаў першы полк г. з. Чужаземнае Легіі ў Афрыцы, якую арганізуе і ўтрымлівае Францыя для абароны сваіх калёніяў, а таксама для парадку і спакою, каб вызысківаць чорных афрыканцаў.

У гэтай Легіі п. Гансяроўскі нашоў да 500 польскіх грамадзян, а як яны туды папалі, дык аб гэтым няхай гаворыць сам Ян Татар, сын каваля з Тарнова (каля Кракова).

„Служыў я ахвотнікам,—кажа гэны Татар—у часе вайны з бальшавікамі. Па дэмабілізацыі выехаў у Францыю на работу, не нашоўшы працы, уступіў у Легію. Першыя месяцы і вайна ў Мароку былі цяжкія, цяпер ужо добра, але хочацца вярнуцца ў Польшчу. Цяжка выжыць у тутэйшым клімаце, мучаць чужыя абставіны, цягне да сваіх“.

„Цяпер хачу вярнуцца але-ж трэба адслужыць свае гады. Ці ў Польшчы ведаюць, што ў Легіі ёсьць некалькі сот Палякаў“.

„Служба мне ўжо хутка кончыцца. Паслаў свае паперы да кансуляту, але баюся, ці дазволяць мне вярнуцца ў Польшчу, бо некалькім калегам старосты аппісалі, што цераз уступленьне ў Легію—страцілі польскае грамадзянства“.

Ці-ж трэба яшчэ што дадаваць да гэтага, каб намаляваць большую трагэдыю, тых няшчасных, якія выехалі ў Францыю на заработкі?...

Гэтакія самыя францускія Легіі ёсьць ня толькі ў Афрыцы, але-ж і ўва ўсіх францускіх калёніях, як Сырыі, у Тонкіне, а цяпер, дык аддзелы Легіі пасылаюцца і ў Шанхай.

Ясна, што за гэтыя мучэньні польскіх грамадзян цалком адказвае ўрад. А дзеля чаго?—А дзеля таго што ўрад павінен быў у той час, калі зьявілася патрэба ў польскіх работніках у Францыі, дэтальна разглядзець усе магчымасьці гэтае справы і справу ўпарадкаваць гэтак, каб не магло быць гэтакіх многалікіх прыкрасьцяў з грамадзянамі яговай дзяржавы. Павінен быў-бы даручыць апеку над работнікамі-эмігрантамі сваім кансулам; якія павінна-бы даць дапамогу вярнуцца дамоў, а гэтым самым ўратаваць ад таго бадзяньня, якое сёньня мы бачым. Урад не павінен дапусьціць да таго, каб яго грамадзян іншая дзяржава выкарыстоўвала ў мэтах захопнасьці.

Як відзім, дык урад ня выканаў сваіх абавязкаў адносна сваіх грамадзян!... А калі гэтак, дык пяройдзем да тых дапушчэньняў, якія высьняць нам прычыны праступнасьці ўраду ў гэтым.

Бязумоўна і безсумліўна тое, што тут першую іскрынку іграе сацыяльнае пытаньне. Урад, які складаўся выключна з прадстаўнікоў абшарніцка-капіталістычных клясаў бачыў ў польскай дзяржаве перанаселеннасьць, а цераз гэта безрабоцьце і забурэньні сярод свайго гра-

мадзянства. Не гледзячы на тое, што зло можна направіць хатнім спосабам, урад не рабіў гэта, а ўсімі мерамі імкнуўся да таго, каб сплавіць частку сваіх грамагзян, якія па яго думцы зьяўляліся лішнімі, за межы дзяржавы. Дзеля гэтага, гэтак ахвотна дазваляў усякую эміграцыю. Гэта было да „маёвае санацыі“, ці зьмянілася што ад леташняга мая — адказаць сумляваюся, дык няхай гэтае пытаньне астаецца тым часам адкрытым.

Вышэй паданае пішу я дзеля таго, што ў лічбе тых, якія выехалі ў Францыю на „заработкі“ ёсьць і Беларусы, а дзеля гэтага нас Беларусаў гэтае пытаньне бязумоўна цікавіць. Гэта—адно, а другое тое, што сярод нашага грамадзянства, асабліва моладзі, пануе моцнае імкненьне да эміграцыі.

Дык вось далейшым працягам гэтага артыкулу будзе разгляд эміграцыйнага пытаньня з некаторымі засьцярогамі.

Перадусім, як бы-бы яно дрэнна ня было дома, на чужыне лепш ня будзе. Праўдзівасьць гэтага сьцьвярджаюць тысячы, мільёны яскравых фактаў. Возьмем на першы прыклад эміграцыю да Амэрыканскіх Злучаных Штатаў. На што ўжо выгадная эміграцыя, аднак жа мала ёсьць гэтакіх шчасьліўцаў, якія запраўды ўжыліся там па хатняму. Шмат хто вяртаецца ў спраўным стане, (аднак-жа вяртаецца), каб цягнуць далей на Бацькаўшчыне гаротную бяду. Вось прыклад, які патрабуе шырэйшага выясьненьня!

Чаму-ж гэта гэтак здараецца? — А таму што, — як казаў той Татар, — цяжка выжыць у тутэйшым клімаце, мучаць чужыя абставіны“, а дзеля гэтага цягне да сваіх. А дзеля гэтага самага нават тагды, калі чалавек задаволены матэрыяльна, у цяжкім чужым клімаце і атмасфэры ня можа выжыць і вяртаецца дамоў!

Я памятаю як перад вайною, многа моладзі выяжджала на заработкі ў Расею. Бывала прыяжджаюць дамоў франтамі, аднак-жа прыяжджалі!... Ніхто з іх не астаўся на заўсёды ў Расеі — цяпер дома нароўні з усімі гаруюць на сваім родным загоне, або служаць у маёнтках. Праўда, ёсьць і гэтакія, якія і да гэтых часоў жывуць у Расеі, але як відаць з перапіскі, дык імкнуцца дамоў і астаецца 1000% гэтакіх, якія праўды прыстроіліся, зжыліся і задаволеныя сваім палажэньнем. Але-ж ці ня здарыцца гэтак, што і іх які-небудзь новы лёс не пакіруе да роднага гнязда?!...

Аканчальнымі вывадамі з усяго гэтага артыкулу будзе засьцярога: што ня гледзячы на цяжкія ўмовы жыцьця на Бацкаўшчыне, нельга кідацца на абы якую эміграцыю, бо гэтым сумым можна пашкодзіць сабе і многа цераз гэта працярпець. Лепш імкнуцца ўсімі спосабамі да направы жыцьця на Бацькаўшчыне.

Але ці ёсьць магчымасьці направы і якія? На першае адкажу—ёсьць, а на другое папрашу зіркнуць на тыя лёзунгі, якія красуюцца на падзагалоўку нашае газэты.

На заканчэньне скажу некалькі словаў і аб сучаснай эміграцыі. Калі браць агулам, дык сучаснае палажэньне сьвету гэтакае, што эміграваць беднаму чалавеку, каб здабыць „залатое руно“ няма куды.

Амэрыканскія Штаты і Расея не прыймаюць эмігрантаў, дзеля таго, што работнікаў ня трэба. Францыя ўжо ведама, якія пэрспэктывы паказала на яве, а іначай, калі браць Канаду і Паўднёвую Амэрыку, дык трэба быць багатым, каб загаспадаравацца там, бо там заработкаў няма, а ёсьць толькі калёнізацыйныя магчымасьці на свой кошт.

Скарга.

# Сьпявайце свае песьні!

Як Вы думаеце, ці ёсьць на сьвеце, такая старонка, такі куточак, дзе-бы людзі не сьпявалі сваіх песень? Мусіць быць такой старонкі, такога куточка, на земнай кулі ня было і ня будзе, бо песьня, як адбітак душы чалавека, можа істнаваць толькі там, дзе жыве чалавек. Там дзе няма чалавека, няма і песьні. Песьні, як кажа наш пясьняр Я. Купала, гэта Божа дар, шанаваць іх трэба. А бяз песьні-ж народ — што ён варт быць можа? Вось гэта песьня, Божы дар, у жыцьці людзей займае самае пачэснае месца. З песьняй на вуснах людзі моляцца Богу, песьняй весяліць сябе, песьняй-жа разганяюць людзі свой сум, нуду, сваё гора-бяду. Як па твары пазнаюць чалавека, так па песьні, асабліва народнай, пазнаюцца цэлыя нацыі, яе характар, душа.

Песьня — гэта быццам нейкая вялікая сіла — вельмі памагала і памагае, будзіць народ ад сьпячкі, узахвочывае яго да працы, падымае з цемры, кліча на абарону сваей Бацькаўшчыны і інш. Вось чаму ў народаў з шырока развітай асьветай, песьня даўным-даўно адваявала сабе пачэснае месца, яе справедліва шануюць, як вялікі ўсенародны скарб, бо яна для душы кожнага чалавека, ці беднага, ці багатага—ўсё роўна патрэбна, як вада і хлеб для здароўя цела.

Маем і мы, Беларусы, сваю родную беларускую песьню. Маем, але к нашаму сораму, шкада, што мы яе забываем. Мы чураемся сваей песьні, нібы-то затое, што яна „мужычая“ і ў той-жа самы час сьпяваем, папраўдзе, брыдкія расейскія, ці польскія частушкі, сьпяваем песьню прынесеную нам з польскай казармы, сьпяваем чужую, халодную песьню, часта зусім не зразумелую для нас, але затое галосную, перасыпаную розным каханьнем, ды салаўямі. Гэта сумнае зьявішча ў нашым жыцьці, мы павінны папоўніць, загладзіць, сьпевам сваей роднай, беларускай песьні. Пара нам ужо зразумець, што наша песьня, гэта ёсьць спадчына вякоў, сьвятая спадчына нашых бацькоў, дзядоў, яны сьпявалі яе і перадалі нам каб і мы сьпявалі яе і ў сваю чаргу перадалі-б сваім дзецям. Трымацца сваей песьні мы павінны дзеля таго, каб не замярці нам у сваім духовым разьвіцьці, каб вальнейшым часам павесяліцца, аддыхнуць душою і целам, а такога адпачынку моможа даць нам толькі родная песьня.

Трымацца сваей песьні, мы павінны дзеля таго, што яна наша родная, радзілася ў нашай чорнай мужыцкай хаце і разам з малаком маткі перадалася нам.

Толькі свая родная песьня, можа прыдаць сілы і энэргіі да працы ў сучасны жудасны момант для беларускага адраджэнскага руху.

Трэба раз на заўсёды разьвітацца з паглядам на нашу песьню, як нейкую „мужычую“, „дзяцінную“, наша песьня мае толькі характэрных асаблівасьцяў, што ей цікавіцца ўвесь сьвет, доказам чаго можа служыць нядаўная выстаўка ў Маскве, дзе наша песьня заваявала шмат сымпатыяў. Дык няхай-жа наша песьня ня гіне, не ўціхае, а голасна і вясёла вырвіцца з грудзей кожнага Беларуса, з грудзей сялянскай моладзі і магутным рэхам адгукнецца па лясох, палёх, нівах. Няхай наша родная песьня ўскалыхне, прабудзе кожнага Беларуса да працы, да асьветы, да сьвядомага жыцьця і разам з тым расьце і крапчэе на карысьць усяго Беларускага народу, на карысьць нашай Бацькаўшчыны—Беларусі!

К. Матусэвіч.

# Сяляне і работнікі!

**прысылайце ахвяры на палітычных вязьняў!**

Вельмі шмат асоб ужо прайшло праз вастрогі, яшчэ больш дагэтуль сядзіць у вастрогах і невядома як шмат асоб можа яшчэ трафіць у вастрог за свае палітычныя і нацыянальныя ідэі.

Усе тыя, што цяпер на волі павінны помніць аб вязьнях, нашых братах або суседзях і памагаць ім матэр'яльна. „Сялянская Ніва“, пачынаючы ад гэтага дня, адкрывае прыймо ахвяр на палітычных вязьняў.

Усе прысланыя ахвяры будуць перадавацца палітычным вязьням, а справаздача будзе друкавацца ў газэце. Дык кожны, каму дарага адраджэньне Беларускага Народу, каму дарагі змагары за беларускую нацыянальную ідэю, каму дарагі палітычныя вязьні Беларусы, сьпяшайцеся прыслаць у рэдакцыю хоць маленечкую ахвяру.

За Вашыя прысланыя грашы будуць вам удзячны палітычныя вязьні.

Грошы можна прысылаць на адрэс:
Wilno, Zawalna 6 m. 5. Рэдакцыя „Сялянскае Нівы“.

# З жыцьця пад Польшчай.

### Дамаганьні паштавікоў.

Паштовыя служачыя дамагаюцца падвышкі пэнсыі. На сабраньні прынята адпаведная рэзалюцыя, з пагрозамі забастоўкі, калі іх дамаганьне ня будзе ўважана.

### Арышты ў справе Сабінскага.

Сьледам за арыштаваньнем Атаманчыка, які вінавацiцца ў забойстве львоўскага куратара Сабінскага, арыштавана нешта болей як 10 чалавек украінскае інтэлігэнцыі і вучнёўскае моладзі.

### Золата на Палесьсі.

На балацістых берагох рэчкі Лані на Палесьсі знойдзена золата. Ідуць далейшыя досьледы праўдзівасьці гэтага.

### Аб кім турбуюцца?

„Głos Prawdy“ прыводзячы розныя прыклады дамагаецца падвышкі пэнсыі паліцыі ў мэтах палепшаньня быту паліцыянтам.

Невядома толькі чый горшы быт: ці паліцыянта ці селяніна? Пэўна што апошняга, дык чаму-ж гэта турбуюцца аб палепшаньні быту паліцыянта, а не селяніна?

### У Лодзі.

У Лодзі нехта забіў старшыню мястовае рады Цынарскага.

Вядзецца сьледзтва ў гэтай справе і энэргічна шукаюць забойцу, але безрэзультатна.

Для ўдавы па забітым Цынарскім вызначана аднаразовая запамога 5 тысяч злотых і па 1000 зл. месячна пэнсіі на ўсё жыцьцё.

### Арышты ў сувязі з забойствам Цынарскага.

У Лодзі арыштаваны А. Валашчык і К. Рудзеўскі, якія западозраны ў забойстве старшыні мястовай рады М. Цынарскага.

Схапіць забойцаў, пішуць газэты, памагло вызначэньне ўладамі вялікае нагароды таму, хто выкрые забойцаў.

Арыштаваныя, здаецца, стануць перад даразным (надзвычайным) судом.

### „Найблагаславеннейшы“.

Мітрапаліт праваслаўнае царквы ў Польшчы Дзяніс будучы гэтымя днямі ў Канстантынопалі атрымаў ад патрыарха тытул „Найблагаславеннейшы“.

Гэта гэтак сталася тэорэтычна, паглядзімо ці запраўды мітр. Дзяніс будзе „Найлагаславеннейшы“.

### Народны польскі касьцёл.

Некалькі гадоў таму назад паўстаў у Польшчы народны касьцёл. Сутнасьць яго ў тым, што пры захаваньню каталіцкіх дагматаў і абрадаў, народны касьцёл пры набажэнствах карыстаецца польскаю, а не лацінскаю мовою і не падпарадкаваны рымскаму папе.

Ідэя гэтага касьцёлу пашыраецца, колькасьць прыхільнікаў павялічваецца.

18 г. красавіка ў Жырардове ў прысутнасьці чысленае масы работнікаў ксёндз народнага касьцёлу Пекацінскі адправіў набажэнства і як падае „Dziennik Wileński“ ў прамове адзначыў, што народны касьцёл, гэта работніцка-сялянскі касьцёл, процівага буржуазным клясам, прадстаўнікамі якіх Хрыстос быў замучаны.

# Галоўныя дзейнікі грамадзкіх зьявішчаў.

У нядзелю, 10 г. красавіка, гр. А. Стэповіч прачытаў лекцыю на вышэй паданую тэму.

Як вынікае з самога назову, увесь зьмест лекцыі адносіўся выключна да сацыялёгіі, як навукі аб грамадзкіх зьявішчах.

Мэтай лектара, як ён сам зазначыў, было —азнаёміць прысутных з падставовым пытаньнем сацыялёгіі, а іменна: што зьяўляецца галоўным дзейнікам разьвіцьця ў жыцьці грамадзкім.

Шукаючы адказу на гэтае пытаньне, лектар зазнаёміў аудыторыю з навучнымі паглядамі Конта, Спэнсэра, Дарвіна і Маркса.

Паводле Конта, які амаль што першы заняўся выясьненьнем галоўных дзейнікаў ці прычынаў грамадзкіх зьявішчаў, зьяўляецца выключна чалавечы розум.

Паводле Спэнсэра грамада зьяўляецца суцэльным арганізмам падобным да арганізму жывых істотаў і падлягае законам прыроды. Асобная адзінка, гэта складовая клетка, частка грамадзкага арганізму. Дзеля гэтага толькі біалёгія можа разглядаць грамадзкае жыцьцё, вось па яго паглядах, галоўнымі дзейнікамі грамадзкіх зьявішчаў ёсьць: унутраныя пабуджэньні чалавечага арганізму і страсьці.

Падобнай тэорыі трымаецца і Дарвін, дапаўняючы Спэнсэра паглядамі, што жыцьцё грамадзянства абмежавана ўплывамі выключна натуральнага падбору і перадачай на пакаленьне набытых свойстваў. Адзін з сацыялёгаў Аммон робіць з гэтага вывады: дзеля таго, што ў барацьбе за істнаваньне перамагаюць толькі сільныя, дык змаганьне ёсьць творчым дзейнікам, які трэба падтрымліваць. Бедных людзей, як слабых і нікуды ня прыгодных, кажа Аммон, трэба абмежываць у правох і вясьці іх гэтакім чынам да поўнай пагібелі.

Трэцім дзейнікам грамадзкіх зьявішчаў, пасьля чалавечага розуму па Конту і арганічнай тэорыі па Спэнсэру, ёсьць эканамічныя ўмовы і абставіны чалавечага жыцьця, асабліва форма вытворства. Гэты дзейнік або прычыну грамадзкіх зьявішчаў адкрыў Маркс, якую ён лічыў выключным дзейнікам.

І праўда, што эканамічны дзейнік, кажа лектар, зьяўляецца найважнейшым дзейнікам грамадзкіх зьявішчаў, але-ж не выключным.

Згодна вывадаў гр. Стэповіча, усе тры гэтыя дзейнікі ёсьць галоўнымі кіраўнікамі чалавечага жыцьця.

Мэтода.

